Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі .. ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 5 (93) | Вільня, 22-га красавіка 1936 г. | Год 4-ты.

## Два вогнішчы.

Усход і Захад — вось тыя два вогнішчы, з каторых можа ў кожную хвіліну пачацца крывавы пажар.

Струны эўрапэйскае дыплёмацыі нацягваюцца ўсё больш і больш і хто ведае, ці ў сучасны мамэнт эўрапэйскія суадносіны ня больш напружаны, чымсь савецка-японскія.

Француска-савецкі саюз фактычна выклікаў зусім слушнае выступленьне немцаў супроць Францыі, ці лепш кажучы, выступленьне ў абароне сваіх інтарэсаў на пагранічччу Францыі—ў Надрэніі.

Не зважаючы на ўвесь гвалт, які паднялі французы каля рэйнскага пытаньня, Нямеччына сваё зрабіла і ніякія лёнданскія канфэрэнцыі ня змусілі яе пакінуць занятых пазыцыяў.

У хуткім часе над гэтым пытаньнем ізноў будзе дэбатаваць Ліга Народаў, але,ёсьць ведама, бязрэзультатна, бо-ж за гэты час палажэньне Нямеччыны значна ўзмацавалася.

Італьянцы сваім пераможным паходам у Афрыцы ўсё больш і больш пагражаюць інтарэсам Англіі, каторая ў сувязі з гэтым здаецца зьбіраецца зажадаць ад Францыі актыўнага выступленьня супроць Італіі.

Калі Англія сапраўды рашыцца на такі энэргічны шаг супроць Італіі, то гэта будзе сьведчыць аб тым, што яна ўжо дагаварылася ў гэнай справе з Нямеччынай. Такое-ж паразуменьне Англіі з Нямеччынай зусім магчымае, бо Нямеччыне залежыць на тым, каб на наступнай сэсіі Лігі Народаў мець на сваім баку Англію, а апошняй таксама залежыць, каб падчас яе канфлікту з Італіяй Нямеччына была нэйтральнай.

Найгоршая пазыцыя ў гэткім прыпадку прыпадзе Францыі, каторая змушана ўрэшце будзе адкрыта стаць на бок Англіі, бо-ж з Італіяй супроць Англіі станавіцца ёй будзе вельмі і вельмі рызыкоўна.

Такім чынам у Эўропе насьпяваюць падзеі, якія бязумоўна адаб'юцца гулкім рэхам і ў Абісініі.

Ці рэха гэта не дакоціцца да далёкага Усходу — Японіі, Манголіі, Манджурыі і Кітаю на чале з галоўным яго запявалам СССР, сяньня сказаць яшчэ трудна.

Ведаем толькі, што ў сувязі з агульным міжнародным палажэньнем Турцыя ўжо зажадала ад Лігі Народаў перагляду Лёзанскага трактату, каб адтрымаць магчымасьць фортыфікацыі Дарданелаў—гэтага таемнага ключа ад Чорнага і Азоўскага мораў.

Ведама таксама, што адначасна Саветы прыгатоўваюць сабе моцную пазыцыю ў далёкай Гішпаніі.

Пажывём—пабачым!

## Зямельнае пытаньне ў Саветах.

Зямельнае пытаньне было, ёсьць і будзе аднэй з найважнейшых справаў для кожнай сельска-гаспадарчай краіны. Асаблівага значэньня набрала гэтае пытаньне пасьля ўсясьветнай вайны, каторая значна зьмяніла карту Эўропы. З аднаго боку паўсталі новыя дзяржаўныя арганізмы, якія змушаны былі будаваць сваё дзяржаўнае і эканамічнае жыцьцё зусім нанова, з другога боку у некаторых краінах настолькі зьмяніўся сацыяльны лад, што пацягнуў са сабой зьмену эканамічнага жыцьця. Такім чынам справа зямельнае рэформы амаль усюды сталася заданьнем першай важнасьці.

Ня трэба, зразумела, дзівіцца, што гэнае пытаньне ў большасьці краінаў дасюль яшчэ не ўпарадкавана, бо-ж яно настолькі труднае і заблутанае, што вымагае ня толькі шмат працы і часу, але і вельмі мудрага, сумленнага ды адначасна рашучага выкананьня.

У паасобных дзяржавах зямельнае пытаньне вырашаецца рознымі шляхамі. Саветы падыйшлі да зямельнае рэформы нястолькі з эканамічнага боку, як перадусім з боку палітычнага. Кінены імі лёзунг „уся зямля народу", можна сказаць, у значнай меры, калі ня выключна, і забясьпечыў камуністам перамогу над усімі іншымі партыямі.

Ці аднак захапіўшы ўладу ў свае рукі бальшавікі зьдзейсьнілі свае абяцанкі?

У папярэднім нумары „Роднага Краю" мы паказалі, што ў шмат якіх пытаньнях бальшавікі ня толькі не ўвялі нічога новага, а наадварот, у вельмі хуткім часе вярнуліся да старых „буржуазных" формаў, прайшоўшы перад гэтым вельмі крывавы ды бязьлітасны шлях у адносінах да таго самага працоўнага народу, за правы каторага яны, як быццам, змагаліся.

Ці ўдалося адначасна ім захаваць сваю камуністычную лінію ў гэтым пытаньні?

Якраз не. Перш, як пабачым, трэба было перастаць быць камуністамі, адмовіцца ад сваіх „аслаўленых" камунаў, часткова вярнуцца да той-жа „буржуазнай" сыстэмы прыватнай уласнасьці, каб мець магчымасьць рэалізаваць бяз шкоды для народу і дзяржавы свае зямельныя пляны.

Адразу пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі, г. зн. пасьля 25-га кастрычніка 1917 году, камуністы аддалі часткова панскую зямлю народу, але ўжо вельмі хутка ў шмат якіх мясцох прыйшлося ня толькі адбіраць яе назад ад „удзячнага" насельніцтва, але адначасна і змушаць гэтае насельніцтва бясплатна працаваць на гэтай панскай зямлі для так зв. „Савхозаў". У шмат мясцох гэныя, пакіданыя панамі маёнткі фактычна былі зусім разграблены. Пры гэным грабежы, зразумела, „найбольш нажыліся" якраз сільнейшыя, а тыя, хто працаваў на гэнай зямлі — парабкі апынуліся ў горшым палажэньні чымсь пры панох. Ня мелі яны ні хлеба, ні малака, ні каня, адным словам нічога — бо-ж усё, як панскае было разграблена.

Гэта паслужыла прычынай бальшавіком забраць панскія маёнткі пад апеку казны ды ствары́ць з іх, так званыя, савецкія гаспадаркі—савхозы.

Але створаныя савхозы ніякай карысьці дзяржаве не давалі, наадварот, казна павінна была яшчэ даплачваць да такіх гаспадарак даволі значныя сумы. Тады камуністы пачалі рабіць ў такіх маёнтках, так званыя, камуны, ўцягваючы туды перадусім парабкаў ды беззямельную вясковую беднату. Аднак і гэная спроба не ўдалася, бо ў такой камуне кожны хацеў быць калі ня панам дык прынамся камісарам. Адным словам ахвотнікаў працаваць было вельмі мала, а нават тыя, хто шчыра хацеў працаваць, пабачыўшы што працуюць на гультаёў, хутка таксама апусьцілі рукі.

Наступным этапам было ўцягваньне ў такую камуну цэлае вёскі, але гэная новая спроба была яшчэ больш няўдалая чымсь папярэдняя, бо-ж атрымаўшы загад пераходу на камуну, пачалі масова „разбазарваць", як акрэсьлілі бальшавікі, хатняе жывёлы. Кожны стараўся як найхутчэй зарэзаць усю жывёлу, якую меў: каровы, сьвіньні, авечкі, куры і г. д., бо-ж усёроўна ў камуне ўсе будуць роўныя — тыя, што нешта маюць і тыя, што нічога ня маюць. Гэткае зьявішча было амаль пагалоўнае і давяло Саветы да вялікае катастрофы. Праўда, хутка камуністы агледзеліся ды зразумелі чым гэта пагражае дзяржаве, але ўжо было позна. Выдадзены былі новыя законы, паводле якіх „разбазарваньне" каралася ледзь не расстрэлам, але самай прычыны, выклікаўшае гэткае зьявічша, камуністы аднак адмяніць не хацелі. Праз адзін год большасьць камунаў ня мела ані хлеба, ані насеньня, ані інвэнтару. Насоўвалася катастрофа, бо-ж, так званыя, хлеба-загатоўкі такімі камунамі ня былі выкананы — голад пагражаў гарадом.

Пад напорам рэальнага жыцьця бальшавіком прыйшлося ўрэшце адмовіцца ад самаго прынцыпу камунальнае ўласнасьці ды зноўжа вярнуцца, ня зусім што праўда, але ў значнай меры, да індывідуальных гаспадарак, злучаных у так званую сельска-гаспадарчую арцель.

Як бачым, зямельнае пытаньне ў Саветах прайшло вялікую эвалюцыю, але на гэтым не канец. Пасьля вялікага ліку розных няўдалых экспэрымэнтаў, бальшавікі зрабілі яшчэ адну спробу, ў якой прынцып камунальнага земляўладаньня палучаны з прынцыпам індывідуальнай уласьнасьці.

Аб гэтым раскажам у наступным нумары.

## Распараджэньне Міністра Справядлівасьці

з 4. II. 1936 г. прыносіць пэўныя палёгкі адносна раскладаньньн на раты, адсрочваньня і дараваньня належных дзяржаўнаму скарбу залеглых судовых коштаў, прысуджаных у цывільным працэсе. З успомненай палёгкі могуць карыстаць асобы, якія знаходзяцца ў цяжкіх матэр'яльных варунках. Сплата належнасьці можа быць разложана на раты або адсрочана на 2 гады, а ў вынятковых выпадках, калі доўг будзе забясьпечаны на нярухомасьці—на 4 гады.

Асобам, якія адноснымі пасьведчаньнямі (напр. гміны або магістрату)сьцьвердзяць, што экзэкуцыя належнасьці з маемасьці і даходаў пазбавіла-б даўжніка і яго сям'ю найбольш скромнага ўтрыманьня, залеглыя судовыя кошты могуць быць дараваны.

Заявы аб разлажэньні на раты і адсрочкі трэба падаваць кіраўніку Суда I інстанцыі (гродзкі), які ў гэтым прадмеце дэцыдуе паводле свайго ўзнаньня і пастановы яго не падлягаюць заскаржэньню.

Адносна дараваньня, калі высокасьць належнасьці не перавышае 500 зл. — дэцыдуе Старшыня Апэляцыйнага Суда, што да вышэйшых сумаў—дэцыдуе Міністар Справядлівасьці. Просьбы аб даваньні залеглых коштаў трэба таксама складаць кіраўніку Суда I інстанцыі, які са сваей апініяй перашле заяву адносным уладам.

Належнасьць, не перавышаючая 10 зл., ня будзе разложана на раты.

## Аб 3-х працэнтнай Інвэстыцыйнай пазычцы.

Пракуратура і Суды атрымалі з Міністэрства Справядлівасьці высьненьне, згодна з якім облігацыі 3-х працэнтнай Інвэстыцыйнай пазычкі могуць быць прыйманы успомненымі інстытуцыямі, як каўцыі і заклады. Дэпазытовая вартасьць облігацыі акрэсьлена на 65 зл. за 100.

## Устава з 18 III. 1936 г.

уводзіць новыя зьменшаныя працэнты ад залеглых падаткаў і дзяржаўных данінаў, а таксама ад залеглых належнасьцяў за страхоўку. Працэнт гэты будзе выносіць 0,75% месячна ад залегласьці, пачынаючы ад наступнага дня, на які прыпадаў тэрмін платы падатку. Пры аблічаньні працэнтаў — кожны пачаты месяц лічыцца за цэлы. Працэнт гэты ня выключае дадатковых грашавых штрафаў, прадбачаных у ўставе, а зьвязаных з незаплатай у тэрміне належнасьці (адносныя артыкулы што да штрафаў і іх высокасьці падаюцца на „платнічых наказах").

Ад залеглых падаткаў і публічных данінаў, сплата якіх разложана на раты або адсрочана, бярэцца 0,4% месячна, а ад адсрочаных складак і аплатаў, належных інстытуцыям сацыяльнай страхоўкі,—0,5% месячна.

# Гаспадарчы аддзел.

**Севазварот у агародніцтве.**

Правільнае ўкладаньне наступаючай па сабе гадоўлі агародніны, або правільны севазварот зьяўляецца падставай рацыянальнай гадоўлі агародніны, варункам атрыманьня найлепшых рэзультатаў... але адначасна пытаньнем часта яшчэ сяньня недацэненым і занядбаным.

Дзякуючы севазвароту, мы захоўваем тры ўмовы, абыймаючыя цэласьць гадоўлі агародніны:

1) севазварот змушае нас правільна прыгатаўляць зямлю, рацыянальна яе ўгнойваць;

2) севазварот дазваляе як найбольшь эканамічна выкарыстоўваць расьлінам пожыў, знаходзячыся або ў зямлі, або ў гнаі і урэшце,

3) севазварот—гэта галоўнае аружжа ў барацьбе з рознымі хваробамі агародніны; ён запэўняе расьлінам добрыя гігіенічныя варункі.

Арганічны, натуральны гной, падстава ўгнойваньня, выкарыстоўваецца расьлінамі агароду ў працягу трох гадоў у розных колькасьцях: ў першым годзе расьліны паглынаюць 50 прац. кармавой вартасьці гною, у другім годзе ўжо толькі 32 прац., ў трэцім рэшту 18 прац. З гэтага вынікае, што севазварот павінен трываць тры гады.

Спажыўчыя элемэнты, каторыя знаходзяцца ў гнаі, як азот, паташ і фосфар маюць розную трываласьць і ў працягу трохлетняга выкарыстоўваньня гэтыя элемэнты вычэрпываюцца ў неаднолькавай працэнтнай колькасьці. Сапраўды, ў першым годзе выкарыстоўваецца найбольш азоту, а ў працягу двух гадоў зніштажаецца толькі фосфар.

Усе карысныя расьліны, каторыя растуць у агародзе, можна агульна падзяліць на тры групы:

1. Агародныя расьліны, з каторых спажываем надземныя, зялёныя часткі, як: капуста, салата, шпінак і г.д. — яны паглынаюць найбольш азоту.

2. Агародніны, каторыя зьбіраюць спажыўчыя элемэнты ў карэньнях, як: буракі, мархоўка, пятрушка, рэдзька, бручка, рэпа і г. д., а нават пладаносныя гуркі і памідоры. Гэтыя расьліны вымагаюць больш паташу, а не азоту, бо азот выклікаў-бы большы ўзрост лісьцяў на некарысьць карэньняў.

3. Стручковыя расьліны, каторым для вытварэньня насеньня неабходны фосфар.

З такога падзелу агароднінаў і складовых элемэнтаў яго вынікае найпрасьцейшы трохпалёвы севазварот.

За пачатак севазвароту прыймаецца поле, каторае была ўгнаёна ў папярэдняй восені, і каторага азот быў выкарыстаны ліставымі расьлінамі, належачымі да першай групы.

У другім годзе на гэтым полі будзем гадаваць карнявыя расьліны, которыя знойдуць у ім адпаведную для сябе колькасьць паташу.

Аж на трэці год, калі ў грунце застанецца толькі фосфар, будзем гадаваць стручковыя расьліны, як гарох і фасолю.

Як бачым, у трохпалёвым севазвароце ня месьціцца даволі вялікая група агароднінаў, прыносячая плады, як гуркі і памідоры, дзеля чаго, прыймаючы пад увагу гэтыя агародніны, як самастойную групу пладаносных расьлінаў, можна выкарыстаць чатырохпалёвы севазварот, каторы прадстаўляецца наступна: на першым полі ліставыя расьліны, на другім—пладаносныя, на трэцім — карнявыя, на чацьвертым — стручковыя.

Аднак-жа найбольш выгадны і практычны — гэта пяціпольны севазварот, у каторы ўваходзіць яшчэ поле пад гадоўлю бульбы.

Пры пяціпольным севазвароце маем: першае поле — расьліны ліставыя, другое — пладаносныя, трэцяе — карнявыя, чацьвертае — (даць перад саджэньнем бульбы паў-порцыі гною) —бульба і пятае — стручковыя.

З пяціпольнага севазвароту можна выкінуць бульбу, і тады будзе ён прадстаўляцца так: першае поле — ліставыя, другое — пладаносныя, трэцяе — карнявыя і цыбульныя, чацьвертае—цыбульныя і карнявыя, пятае—стручковыя.

Схэматычна пладазьмены гэтыя прадстаўляюцца наступна:

**ТРОХПАЛЁВЫ:**

| | | |
|---|---|---|
| I поле. Гной. Ліставыя. | II поле. Карнявыя. | III поле. Стручковыя. |
| II п. Карнявыя. Цыбуля. | Пладаносныя. Цыбуля. | I п. Гной. Ліставыя. |
| Пладаносныя. | III п. Стучковыя. | II п. Карнявыя. Цыбуля. |
| III п. Стручковыя. | I п. Гной. Ліставыя. | Пладаносныя. |

**ЧАТЫРОХПАЛЁВЫ:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| I поле. Ліставыя. | II п. Пладаносныя. Цыбуля. | III поле. Карнявыя. | IV поле. Стручковыя. |
| II Пладаносныя. Цыбуля. | III п. Карнявыя. | IV поле. Стручковыя. | I поле. Гной. Ліставыя. |
| III п. Карнявыя. | IV п. Стручковыя. | I п. Гной. Ліставыя. | II п. Пладаносн. Цыбуля. |
| IV поле. Стручковыя. | I п. Гной. Ліставыя. | II п. Пладаносн. Цыбуля. | III п. Карнявыя. |

**ПЯЦІПАЛЁВЫ:**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| I поле. Гной. Ліставыя. | II поле. Пладан. Цыбуля | III поле. Карнявыя. | IV поле. Паў-гной. Бульба. | V поле. Стручковыя. |
| II п. Пладан. Цыбуля. | III п. Карнявыя. | IV п. Паў-гной. Бульба. | V п. Стручковыя. | I п. Гной. Ліставыя. |
| III п. Карнявыя. | IV п. Паў-гной. Бульба. | V п. Стручковыя. | I п. Гной. Ліставыя. | II п. Пладан. Цыбуля. |
| IV п. Паў-гной. Бульба. | V п. Стручковыя. | I п. Гной. Ліставыя. | II п. Пладан. Цыбуля. | III п. Карнявыя. |
| V п. Стручковыя. | I п. Гной. Ліставыя. | II п. Пладан. Цыбуля. | III п. Карнявыя. | IV п. Паў-гной. Бульба. |

Аб угнойваньні трэба ведаць, што першае поле павінна атрымаць у восені поўны гной каля 100 вазоў на гэктар, пладаносным расьлінам трэба даць на вясну па меры магчымасьці і патрэбы кампосту і супэрфасфату ў колькасьці 5 q. на гэктар. Поле, на каторым будуць гадавацца карнявыя расьліны, трэба ўзбагаціць у паташ, даючы 6 q. на 1 гэкт. паташовай солі. Вельмі добра таксама пад стручковыя расьліны на вясну даць 5 q. на 1 гэкт. супэрфасфату, а калі расьліны будуць мець па 3 лісткі, яшчэ пасыпаць між радкамі каля 50 кілегр. на 1 гэкт. чылійскай або амонавай салетры.

Перад гадоўляй бульбы на чацьвертым полі (ў пяціпольным севазвароце) даецца заўсёды порцыя паў-гною (50 вазоў на 1 гэкт..)

*К. Б.*

---

хоць з большага тыя губэрні ды мясцовасьці, што заселены беларусамі. А хто-ж мог тады ведаць лепш за яго, дзе жыве Беларускі Народ? За прыкладам украінцаў шмат хто з беларускіх маладых палітыкаў схіляўся да таго, каб нашыя дзяржаўныя акты называць *унівэрсаламі*.

Калі ў Менск прыйшлі палякі ў 1920 годзе, давялося мне бліжэй пазнаёміцца з Карскім. Палітыкай ён не займаўся, а жыў вельмі бедна. Няраз я ў яго бываў і за кароткі час шмат чаго ад яго навучыўся. Сустракаліся мы і ў рэдакцыі штодзеннай газэты „Беларусь“, дзе я быў, сказаць-бы так, *штатным* супрацоўнікам. Карскі зьмяшчаў там свае навуковыя артыкулы і, здаецца, нават адзін проект залажэньня ў Менску беларускага унівэрсытэту. У рэдакцыі крыху вурчалі, што Карскі піша парасейску. А я дамагаўся асаблівых, падвышаных варункаў аплаты яго працы. Яго артыкулы перакладалі.

Паступіўшы ў Беларускую Вайсковую Камісію, пісаць у газэту я не пакінуў, хоць „штатным“ яе працаўнікам ужо быць ня мог. Зарабляў радкамі. Хутка я пасяліўся на Вясёлай вуліцы ў доме № 23 ці 25. Праз адзін дом, у № 27 ці 29, кватэраваў на тэй самай вуліцы і Карскі. Нашыя сустрэчы зрабіліся часьцейшымі; на вуліцы, у падворку, дзе я жыў, у Губэрнатарскім Садзе і ў прафэсара на кватэры — усюды, дзе мы зыходзіліся, коратка аб тым, аб сім, толькі не аб палітыцы, гаварылі. Я духова рос ад сустрэчаў з вялікім вучоным, з чалавекам добрай, нейкай ласкава-мілай, душы і высокай культуры.

Нажаль я ня вёў запісаў аб гутарках з Карскім, ня было часу тады (о. як-жа шмат гэтага часу цяпер дарэмна прападае!). Аднак шмат што дасюль цьвёрда мною помніцца і пра некаторыя з нашых сустрэчаў хочацца расказаць.

Гляджу раз з вакна свае кватэры на Вясёлай вуліцы, аж з калодзежа на падворку, дзе я жыў, выцягвае ваду праф. Карскі: наліў два вядры, узяў на каромісла і панёс на сваіх шырокіх плечах па вуліцы да... сябе ў хату. Жонка сказала мне, што яна гэта ўжо бачыла няраз. Сорамна мне неяк і балюча зрабілася на сэрцы: не з дабра мусі прафэсар сам цягае ваду з чужога падворку?

Апранаю мундзер і праз якое паўгадзіны званю да Карскага. Прыветна сустрачае мяне, вядзе ў свой рабочы кабінэт, які служыў разам і за гасьцінны пакой. Дзьверы ў кухню зачыняюцца, хоць я ўжо пасьпеў убачыць, як там у балеі нехта мыў порце. Можа ўласнаручна мадам Карская? Або дачка?...

Пасярэдзіне пакою стол для пісаньня (бюро) і на ім таўшчэнны рукапіс — адзін з томаў капітальнай працы Карскага „Белоруссы“.

— *Скажите, как Ваше имя, и отчество?*— пытаецца прафэсар, раскрываючы рукапіс і чагось там шукаючы.

— Макар Мацьвеевіч! — адказаў я.

Карскі знайшоў у рукапісе, што яму трэба. Аказалася, што калісь у Петраградзе ў нейкай беларускай часопісі (здаецца ў „Biełarusie“) зьмешчаны быў вершык аўтора, які меў гэткае самае прозьвішча, як і маё, толькі імя яго было Ігнат. Дзеля таго, што я заўсёды публікаваўся пад псэўдонімам, прафэсар ня мог рашыць, ці петраградзкі верш мой, ці не? Пунктацыяй ён правёў лінію ў рукапісе ад вершыка петраградзкага аўтора да таго месца, дзе пачаў пісаць пра маю скромную творчасьць; цяпер ён тут-жа закасаваў гэту пунктацыю. Маё праўдзівае прозьвішча прафэсар знаў добра, так сама, як і мой псэўдонім. Ня знаў ён майго імя...

Калі я проста заявіў Карскаму, што мяне вось прывяло да яго тое, што я падазраваю бяду-беднасьць у яго жыцьці, што мяне прывёў да яго ня толькі мой асабісты, а наш агульны беларускі сорам за ўсё гэта, дык прафэсар быў вельмі ўдзячны за маё спачуваньне яму, расчуліўся крыху і пачаў маракаваць:

— Ага, казаў, ёсьць беларусы, для каторых я ўжо і не прафэсар.. Мяне, кажа, выкладаць у Беларускі Пэдагогічны Інстытут нават не запрасілі... Ёсьць, бачыце, іншыя прафэсары — Іваноўскі, Тарашкевіч, Байкоў, Ігнатоўскі... Якія яны прафэсары? Тарашкевіч —мой вучань, можна сказаць? Ну, але яны з Іваноўскім, здаецца, ўсім тут цяпер варочаюць... Няхай сабе!...

— *Все может случиться с человеком, пока он жив*,— абарваў прафэсар (словамі, ужо адзін раз сказанымі ім мне раней па адрэсе Жылуновіча, калі мы гаварылі з прафэсарам, сустрэўшыся неяк у лютым 1919 г. ў кватэры m-me Вярнікоўскай—жонкі Тодара Вярнікоўскага. Жылуновіча бальшавікі тады зрабілі „каліфам на час“, высунуўшы яго ў прэм'еры рэвалюцыйнага ўраду Савецкай Беларусі)...

У далейшай гутарцы падчас гэтага майго візыту, Карскі казаў, што і ў рэдакцыі „Беларусі“ ён чуе да сябе нейкі халадок...

А бяда лезе ў хату; дзеравяныя крэслы і бюро ўдалося яму прывязьці з яго колішняй кватэры з Варшавы, куды яму зьезьдзіць пазволілі (з бальшавікамі ішла вайна і, зусім зразумела, з Менску ў Варшаву ня мог тады ехаць бяз пропуску цывільны чалавек).

*Краўцоў Макар.*

*(Працяг будзе).*



